# АБ УСТАНАЎЛЕНЬНІ АДЗІНАЙ ПАШПАРТНАЙ СЫСТЭМЫ ПА САЮЗУ ССР І АБАВЯЗКОВАЙ ПРАПІСЦЫ ПАШПАРТОЎ

*Пастанова Цэнтральнага Выканаўчага Комітэту і Савету Народных Комісараў Саюзу ССР.*

У мэтах лепшага ўліку насельніцтва гарадоў, рабочых пасёлкаў і новабудоўляў і разгрузкі гэтых насельных месц ад асоб, ня зьвязаных з вытворчасьцю і работай ва ўстановах або школах і не занятых агульнакарыснай работай (за выключэньнем інвалідаў і пэнсіонэраў), а таксама ў мэтах ачысткі гэтых насельных месц ад кулацкіх, крымінальных і іншых антыграмадзкіх элемэнтаў, якія тут скрываюцца, Цэнтральны Выканаўчы Комітэт і Савет Народных Комісараў СССР **пастанаўляюць:**

1. Устанавіць па Саюзу ССР адзіную пашпартную сыстэму на аснове палажэньня аб пашпартох.

2. Увесьці адзіную пашпартную сыстэму з абавязковай прапіскай па ўсім Саюзе ССР на працягу 1933 г., ахапіўшы ў першую чаргу насель-

ніцтва Масквы, Ленінграду, Харкаву, Кіеву, Адэсы, Менску, Растова-на-Дану і Ўладывастоку.

3. Даручыць Савету Народных Комісараў Саюзу ССР устанавіць тэрміны і чарговасьць увядзеньня пашпартнай сыстэмы ва ўсіх астатніх мясцовасьцях Саюзу ССР.

4. Даручыць урадам саюзных рэспублік прывесьці сваё законадаўства ў адпаведнасьць з гэтай пастановай і палажэньнем аб пашпартох.

Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага Комітэту
Саюзу ССР **М. Калінін**

Старшыня Савету Народных Комісараў
Саюзу ССР **В. Молатаў (Скрабін)**

Сакратар Цэнтральнага Выкан. Коміт.
Саюзу ССР **А. Енукідзэ.**

Масква, Крэмль,
27сьнежня 1932 г.

## Навошта ўводзіцца пашпартная сыстэма

Умацаваньне пролетарскай дыктатуры ў рэзультаце разгорнутага соцыялістычнага наступленьня пролетарыяту па ўсім фронце, уступленьне пролетарскай краіны ў пэрыод соцыялізму, ліквідацыя кулацтва, як клясы, на базе суцэльнай колектывізацыі, выклікала з боку клясавага ворага вялізарнае супраціўленьне, зьмяненьне яго тактыкі, скрытае пранікненьне ва ўсе поры нашага савецкага апарату і прамысловасьці, спробу весьці падрыўную работу знутры.

Задачай пролетарскай дзяржавы зьяўляецца

выкрыць клясавага ворага, сарваць з яго маску і ачысьціць ад яго прадпрыемствы і, у першую чаргу, пролетарскія цэнтры.

З гэтай мэтай аднэй з рэальных мер павінна зьявіцца адзіная пашпартная сыстэма, якая ўводзіцца згодна пастановы ўраду ад 27 сьнежня 1932 г.

## Дзе ўводзіцца пашпартная сыстэма

У першую чаргу паводле рашэньня ўраду, адзіная пашпартная сыстэма з абавязковай прапіскай уводзіцца ў вялікіх цэнтрах: Маскве, Ленінградзе, Харкаве, Менску, Кіеве, Адэсе, Растове-на-Дану і Ўладывастоку. У гэтых гарадох: «Усе грамадзяне ва ўзросьце ад 16 год, якія пастаянна жывуць у гарадох, рабочых пасёлках, працуючыя на транспарце, у саўгасах і новабудоўлях, абавязаны мець пашпарт».

Увядзеньне адзінай пашпартнай сыстэмы дазволіць нам весьці дакладны улік пражываючых, іх соцыяльны твар, дасьць нам магчымасьць яшчэ больш рашуча праводзіць ачыстку нашых савецкіх, дзяржаўных, профэсіянальных і коопэрацыйных устаноў ад прымазаўшыхся, выпадкова пралезшых варожых нам элемэнтаў.

Увядзеньне адзінай пашпартнай сыстэмы дасьць нам магчымасьць сапраўды ачысьціць нашы гарады ад тых людзей. (за выключэньнем інвалідаў і пэнсіонэраў), якія ня зьвязаны з вытворчасьцю, якія не працуюць, не заняты агульна-карыснай

працай, якія шкодзяць нам. Гэтага таксама з усёй катэгорычнасьцю патрабуюць ад нас тыя задачы, якія пастаўлены партыяй для другой пяцігодкі—пяцігодкі пабудовы бясклясавага соцыялістычнага грамадзтва.

## Пашпартная сыстэма—мэтод клясавай барацьбы

Мы жывём ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы, калі ўсе мэтоды і сродкі барацьбы, якія ёсьць у дзяржаве пролетарскай дыктатуры, павінны быць накіраваны на карысьць соцыялістычнага будаўніцтва.

Клясы дабраволньа не здаюцца. Клясавы вораг пад розным выглядам, пад рознымі маскамі пралазіць у нашы дзяржаўныя, савецкія ўстановы, на прадпрыемствы, у саўгасы, колгасы і шкодзіць нам, імкнецца затрымаць яшчэ больш пасьпяховае разгортваньне будаўніцтва соцыялізму. Былы афіцэр у ролі колгаснага рахункавода, кулак на чале колгасу і колгаснай брыгады, шкоднік на чале дзяржаўнай установы і т. д.,—усё гэта яшчэ мае месца ў нашых паасобных гаспадарках.

Справа Белдзяржснабу, калі на чале банды шкоднікаў стаяў **Таўкач,** былы сакратар Адэскай групы нацдэмаў, з усёй яснасьцю сьведчыць аб тым, што вывучэньню соцыяльнага твару, клясавай характарыстыкі паасобных людзей мы ўдзялялі мала ўвагі. А трэба адзначыць, што Таўкач у свой час быў намесьнікам дырэктара Бела-

рускай выстаўкі, што ён як быццам-бы павінен быў выхоўваць шматтысячныя масы.

Трэба адзначыць, што ў нашых гарадох асталося яшчэ ня мала варожых нам элемэнтаў, якія праводзяць сваю шкодніцкую справу, прыносячы нам страты. Увядзеньне адзінай пашпартнай сыстэмы дазволіць вызваліць нашы гарады ад тых шкоднікаў, дармаедаў, лодыраў, якія займаюць месца, кватэры, атрымліваюць паёк і т. д. і пазбавіць іх усяго гэтага.

Барацьба КП(б)Б, пад бальшавіцкім кіраўніцтвам свайго ЦК, на чале з т. **Гікала,** на фронце загатовак з усёй яснасьцю падцьвердзіла актуальнасьць і своечасовасьць пастановы ЦВК і СНК СССР аб увядзеньні адзінай пашпартнай сыстэмы па Саюзу ССР і абавязковай прапісцы пашпартоў.

**Толькі тады, калі пад бальшавіцкім кіраўніцтвам ЦК быў выкрыт і зломан кулацкі сабатаж, калі паасобныя раённыя і нават цэнтральныя ўстановы былі ачышчаны ад пралезшых туды клясава-варожых элемэнтаў, быў зроблен рашучы пералом у ходзе загатовак.**

Але трэба, каб гэтыя шкоднікі зноў ня мелі магчымасьці пралезьці ў наш дзяржаўны, савецкі, кооперацыйны, профэсіянальны апарат. Вось тут іменна з усёй пераканальнасьцю адлюстроўваецца значэньне пашпартнай сыстэмы, значэньне абавязковай прапіскі пашпартоў.

Пашпартная сыстэма ёсьць адзін са сродкаў барацьбы з клясава-варожымі элемэнтамі.

Вялізарнае значэньне мае пашпартная сыстэма

і на фоне апошніх рашэньняў партыі і ўраду аб барацьбе з прагульшчыкамі і перабудове рабочага снабжэньня. Калі гэтымі пастановамі яшчэ больш зьвязваецца пытаньне спажываньня і разьмеркаваньня з карыснай работай, то пашпартная сыстэма, апроч цэлага раду іншых адзнак, устанаўлівае і соцыяльнае становішча і пастаяннае месца жыхарства яго ўладальніка.

## Масы павінны прыняць актыўны ўдзел

Процэс зьмяненьня соцыяльнага і геаграфічнага твару нашай краіны праходзіць ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы. Клясава-варожыя нам элемэнты і на гэтым вучастку будуць імкнуцца знайсьці для сябе лазейку, усякімі шляхамі— праўдай і няпраўдай, прыкрываючыся рознымі маскамі, пад рознымі формамі будуць імкнуцца атрымаць такія пашпарты, дзе ня быў-бы выкрыт іх сапраўдны твар.

«Для агульнага кіраўніцтва работай упраўленьня рабоча-сялянскай Міліцыі Саюзных рэспублік, для правядзеньня па ўсім Саюзе ССР пашпартнай сыстэмы і прапіскі пашпартоў... стварыць Галоўнае Упраўленьне Рабоча-сялянскай Міліцыі пры АДПУ СССР, прапанаваць Урадам Саюзных Рэспублік прывесьці сваё законадаўства у адпаведнасьць з гэтай пастановай».

Такім чынам, у БССР павінна быць створана Галоўнае Упраўленьне Рабоча-Сялянскай Міліцыі для непасрэднага кіраўніцтва справай увядзеньня

пашпартнай сыстэмы і прапіскі. Нельга ні ў якім разе забываць таксама, што «грамадзянам, пастаянна пражываючым у насельных пунктах, дзе ўведзена пашпартная сыстэма, пашпарты выдаюцца без падачы заяў». Гэта значыць, што шырокая грамадзкасьць павінна быць мобілізавана для непасрэднай дапамогі органам рабоча-сялянскай міліцыі, пільна сачыць за тым, каб выяўляць соцыяльны твар і ўстанавіць клясавую характарыстыку (асабліва асоб падазронага паходжаньня).

На кожным прадпрыемстве, у кожнай установе, у кожным ЖАКЦе грамадзкасьць павінна падрыхтавацца для правядзеньня адзінай пашпартнай сыстэмы, вывучыць соцыяльны склад сваіх рабочых, служачых, жыльцоў і т. д., мець сапраўдную кваліфікацыю іх палітычнага твару з тым, каб у любы момант, калі органы рабоча-сялянскай міліцыі запатрабуюць тую ці іншую даведку аб якім-небудзь грамадзяніне, мы маглі-б яе даць, маглі даць поўную палітычную кваліфікацыю таго ці іншага ўладальніка пашпарта.

Кожны рабочы і колгасьнік сваім актыўным удзелам павінен усямерна памагчы рашучаму выкрыцьцю клясавага ворага, перашкодзіць яго маскіроўцы і хітрасьцям—ачысьціць гарады і соцыялістычныя прадпрыемствы ад адкрытых і скрытых шкоднікаў, умацаваць пролетарскую дыктатуру і забясьпечыць быстрэйшы рух да бяsклясавага соцыялістычнага грамадзтва.

# НАСТУПЛЕНЬНЕ ЯПОНІІ Ў КІТАІ

## Захоп Манчжурыі Японіяй

Паўтара гады назад—19 верасьня 1931 г. войскі японскага імпэрыялізму захапілі манчжурскія гарады—Мукдэн, Чань-Чунь і вузлавыя станцыі Паўднёва-Манчжурскай чыгункі. Гэтым быў пакладзен пачатак окупацыі Манчжурыі. Неўзабаве японскія войскі заўладалі ўсёй Манчжурыяй і праз некаторы час стварылі там падстаўны Манчжурскі ўрад з прадажных кітайскіх генэралаў і політыкаў.

Урад новай, нібы «незалежнай» дзяржавы, названай Манчжоу-Го, аб'явіў Манчжурыю незалежнай ад Кітаю і заключыў з Японіяй ваенна-гаспадарчы дагавор, паводле якога Манчжоу-Го фактычна становіцца колёніяй Японіі.

Захопліваючы Манчжурыю, Японія, як імпэрыялістычная дзяржава, дабівалася:

**1. Расшырэньня рынкаў збыту для сваіх тавараў і капіталаў, выцясьненьня з Манчжурыі сваіх конкурэнтаў.** (Манчжурыя мае 32 мільёны жыхароў і зьяўляецца краінай земляробчай з вельмі слаба разьвітай сваёй прамысловасьцю. У Манчжу-

рыю ўкладзена японскіх капіталаў 1,4 млрд. іен, г. зн. 77 проц. усіх укладаньняў японскіх капіталаў у Кітаі. Штогодны прыбытак толькі Паўднёва-манчжурскай чыгункі даваў японскім капіталістам 45 млн. іен даходу. Японія па сваёй тэрыторыі крыху менш, чым Манчжурыя, і таму японскім капіталістам выгадна сюды перасяляць японскіх і карэйскіх сялян, якія разараюцца).

**2. Захвату прыродных сыравінных багацьцяў** (у Манчжурыі ёсьць значныя запасы вугалю, жалеза, нафты, чаго няма ў самой Японіі. Захватваючы Манчжурыю, Японія, зразумела, захапіла найбольш багатыя запасы вугалю і нафты ў Фушуры, жалезныя руды ў Аньшаньцьзяне. Японскія капіталісты ўжо прыступілі да стварэньня ў Мукдэне апалава-мэталюргічнай базы).

**3. Стварэньня пляцдарму для разгортваньня сваіх армій на выпадак інтэрвэнцыі супроць СССР.** Да гэтага Японія імкнецца як імпэрыялістычная дзяржава. Будуючы аэродромы, казармы, ваенныя заводы, Японія стварае ў Манчжурыі ўмовы для сваёй арміі, каб пачаць шырокім фронтам дзеяньні супроць СССР.

Ва ўсіх гарадох Манчжурыі разьмешчаны японскія войскі, ствараецца манчжурская армія пад кіраўніцтвам японскіх інструктароў.

Авалодваючы Манчжурыяй, японскі імпэрыялізм узмацняецца і на выпадак барацьбы з амэрыканскім імпэрыялізмам, бо забясьпечвае сябе сыравінай, апалам і мэталем для вядзеньня імпэрыя-

лістычнай вайны супроць амэрыканскага імпэрыялізму.

«Манчжурыя намаганьнямі японскага імпэрыялізму, пры падтрымцы Францыі і Англіі, ператворана ў пляцдарм для нападзеньня на СССР» (з рэзолюцыі XII пленуму ВККІ).

## Упаўзаньне ў імпэрыялістычную вайну

«Нападзеньне японскага імпэрыялізму на Кітай, якое адбылося пры поўнай і адкрытай падтрымцы Францыі і скрытай падтрымцы Англіі, зьяўляецца пачаткам новай імпэрыялістычнай вайны» (з рэзолюцыі XII пленуму ВККІ).

Аднак, формальна вайны паміж Японіяй і Кітаем не аб'яўлена. Японія і Кітай зьяўляюцца членамі Лігі нацый, іх подпісы красуюцца пад пактам Кэлёга, забараняючым вайну, як мэтод вырашэньня спрэчных пытаньняў.

Японія вядзе вайну супроць Кітаю пад флагам абароны сваіх інтарэсаў у Кітаі, нібы нарушаемых кітайцамі.

Ліга нацый, выхваляемая соцыял-фашыстамі, здраднікамі рабочай клясы—правадырамі II Інтэрнацыяналу, як абароньніца міру паміж народамі, спакойна назірае ваенныя дзеяньні паміж сваімі членамі.

Як нельга лепш, апраўдваецца характарыстыка гэтай установы, даная XII пленумам ВККІ.

«Адносіны Лігі нацый, створанай, нібы, для папярэджаньня вайны, да японскага нападзеньня на

Кітай, яшчэ раз наглядна даказалі, што Ліга нацый служыць інструмантам вайны і інтэрвэнцыі ў руках францускага і англійскага імпэрыялізму» (з рэзолюцыі XII пленуму ВККІ).

Усе меры ўзьдзеяньня Лігі нацый на Японію і Кітай зьвяліся да вылучэньня пытаньня, якое цягнулася столькі часу, колькі спатрэбілася Японіі для захвату Манчжурыі. Калі-ж, нарэшце, комісія Літона, вывучаўшая па даручэньні Лігі нацый становішча ў Манчжурыі, прадставіла свой даклад Лізе нацый, то аказалася немагчымым прыняць якое-небудзь рашэньне ў самой Лізе нацый.

Даклад комісіі Літона ня мог унікнуць устанаўленьня вельмі простых і ясных фактаў:

што ў Манчжурыі не існавала раней ніякага сэпаратнага нацыянальнага руху;

што Манчжоу-Го было створана японскім імпэрыялізмам, які окупаваў Манчжурыю;

што Манчжурскі ўрад ня мае ўласных крыніц сілы і падтрымкі насельніцтва;

што дзеяньні Японіі далёка вышлі за межы барацьбы супроць нарушэньня дагавароў, у чым Японія абвінавачвала Кітай.

Абмеркаваньне дакладу Літона Лігай нацый перадаецца ў комісію 19-ці, а гэтая апошняя пасьля доўгай зацяжкі перадае яго ў новую падкамісію 5 або 7.

Японія ўсімі спосабамі дабіваецца таго, каб Ліга нацый ня прымала ніякіх рашэньняў па пытаньні аб Манчжурыі, што ёй у значнай ступені і ўдалося.

Такое патураньне Японii з боку Лiгi нацый фактычна азначае ўхваленьне ёю дзеяньняў Японii, г. зн. ухваленьне пачатку iмпэрыялiстычнай вайны.

## Адносiны iмпэрыялiстычных дзяржаў да захватаў Японii

Францыя i Англiя, як i раней, аказваюць Японii падтрымку ў яе захватнiцкай палiтыцы.

Англiйскi консэрватыўны друк выказваецца супроць абмеркаваньня дзеяньняў Японii ў Кiтаi ў Лiзе нацый. Англiйская газэта «Обсэрвер» пiша: «Нiчога не астаецца, як прызнаць, што Японiя... можа рабiць усё, што ёй хочацца, у Манчжурыi».

«Морнiнг Пост» пiша: «Японскiя ваенныя дзеяньнi (захват Шанхайгуаня) выклiканы провакацыйнай позыцыяй Чжан-Сюэ-Ляна». Англiйская нацыя, якая ня мае нiякiх спрэчак з Японiяй, нiколi ня згодзiцца на варожае выступленьне супроць свайго старога прыяцеля.

Яшчэ больш адкрыта выступае ў абарону дзеяньняў Японii Францыя.

Такая позыцыя Францыi i Англii тлумачыцца тым, што i гэтыя дзяржавы разьвiваюць свае конкрэтныя меры для ўтаржэньня на Кiтайскую тэрыторыю.

Францыя з поўдню ўмацоўвае свае позыцыi ў мяжуючай з Iнда-Кiтаем (француская колёнiя) провiнцыi Юнань. Англiйскi iмпэрыялiзм пускае ў

ход рад ваенных мерапрыемстваў у сумежных з Тыбэтам провінцыях Кітаю—Чжуан-Віен і Лін-Хай.

Праціўнікам японскай інтэрвэнцыі ў Кітаі і разьдзелу Кітаю паміж імпэрыялістамі зьяўляецца ПАЗШ, якія маюць значныя інтарэсы, як у Манчжурыі, так і асабліва ва ўласным Кітаі.

Так, калі за 15 год, пачынаючы з 1913 г., сума капіталаўкладаньняў Японіі ў Кітаі павялічылася на 30 проц., то ПАЗШ павялічылі іх на 150 проц.

Амэрыканскі імпэрыялізм быстрэй японскага захоплівае рынкі Кітаю, а цяпер, у пэрыод сусьветнага экономічнага крызісу і звужэньня рынкаў збыту, гэтае імкненьне Амэрыкі яшчэ больш узмацнілася, дзякуючы чаму абвастрыліся і супярэчнасьці паміж ПАЗШ і Японіяй.

Але і Амэрыка ў пэрыод захвату Японіяй Манчжурыі не прымяняла эфэктыўных сапраўдных мер націску на Японію. ПАЗШ разьлічвалі, што японская імпэрыялістычная політыка ў Манчжурыі выкліча вайну паміж СССР і Японіяй, што было-б, зразумела, найбольш выгадным для Амэрыкі. Такая вайна аслабіла-б як пролетарскую дыктатуру, так і імпэрыялістычную Японію.

Аднак, мірная політыка, якая пасьлядоўна праводзіцца нашай пролетарскай дзяржавай, пазбаўляе імпэрыялістычную Японію і Амэрыку магчымасьці вырашыць свае супярэчнасьці за кошт СССР.

## Політыка ПАЗШ на Усходзе

Амэрыка ўпорна супрацiўляецца прызнаньню захвату Японіяй Манчжурыі, не згаджаецца прызнаць створаную Японіяй новую дзяржаву Манчжоу-Го.

Надзеі Японіі, якія адзін час узмоцніліся, аб тым, што зьмена ў ПАЗШ ураду Гувэра урадам Рузвэльта выкліча зьмяненьні ў зьнешняй політыцы Амэрыкі, ня спраўдзіліся.

Рузвэльт, новаабраны прэзыдэнт Амэрыкі, ужо некалькі раз заявіў «аб сьвятасьці міжнародных згод», што, зразумела, выклікала значнае расчараваньне ў японскіх імпэрыялістычных колах.

Натуральна, што новае наступленьне Японіі выклікала ўзмацненьне антыяпонскай політыкі Злучаных Штатаў. Амэрыка вядзе ўзмоцненыя перагаворы ў Лёндане і Парыжы ў бок націску на зьмяненьне політыкі Англіі і Францыі ў адносінах да Японіі.

У рэзультаце нарады паміж старым прэзыдэнтам Гувэрам і новым—Рузвэльтам Англіі паслана паведамленьне аб згодзе Амэрыкі пачаць перагаворы наконт даўгоў з тэй, аднак, умовай, што адначасова ў перагаворах «будуць абмяркоўвацца сусьветныя экономічныя проблемы, у якіх ПАЗШ і Англія ўзаемна зацікаўлены». Відавочна, Амэрыка дасьць згоду пайсьці на ўступкі Англіі ў пытаньні аб даўгох, пры ўзаемнай уступчывасьці Англіі ў сваёй далёка-ўсходняй політыцы.

Адначасова група амэрыканскіх сэнатараў пачынае весьці кампанію супроць Францыі.

Ва ўсякім выпадку адно нясумненна, што новае наступленьне Японіі на Кітай выклікае новае абвастрэньне імпэрыялістычных супярэчнасьцяй, новую небясьпеку адкрытай імпэрыялістычнай вайны, новыя магчымасьці разьдзелу Кітаю і змоў, накіраваных супроць СССР.

## Супраціўленьне Кітая японскім захватам

Калі захват Японіяй Манчжурыі адбыўся амаль без супраціўленьня кітайскіх генэралаў і войск, то абстаноўка ў Кітаі ў сувязі з новым наступленьнем Японіі складаецца крыху інакш.

Здрадніцкая палітыка Лігі нацый у адносінах Кітаю абвастрыла нездавальненьне шырокіх слаёў насельніцтва Кітаю супроць Японіі, супроць імпэрыялістаў наогул. Новае наступленьне Японіі на Кітай, накштaлт шанхайскіх падзей, можа выклікаць рост нацыянальнага абурэньня ў Кітаі.

Гэта робіць больш цяжкім подкуп і разлажэньне кітайскіх генэралаў з боку Японіі.

У адказ на сконцэнтраваньне японскіх войск па лініі Кайлу-Шанхайгуань губэрнатар провінцыі Жэхэ Тан-Юй-Лін сконцэнтроўвае свае войскі. Супроць 25—30 тыс. японскіх войск у провінцыі Жэхэ стаіць армія Тай-Юй-Ліна і шматлікія волёнтэрскія (дабравольніцкія) атрады агульнай колькасьцю да 100 тыс. салдат.

У Паўночным Кітаі ў раёне Бэйпін-Цянь-Цзін сконцэнтроўваецца армія Чжан-Сюэ-Ляна ў колькасьці да 150 тыс. салдат.

Ёсьць прызнаньне на словах неабходнасьці даць адпор японскаму наступленьню з боку кітайскіх генэралаў Ень-Сі-Шаня, Фын-Юй-Сяна.

Сам гоміндаваўскі ўрад, хоць і нерашуча, але ўсё-ж выказваецца за супраціўленьне Японіі з боку Кітаю. Зразумела, паміж кітайскімі генэраламі і групоўкамі, паколькі яны служаць інтарэсам розных імпэрыялістычных дзяржаў, ёсьць шмат узаемных супярэчнасьцяй, што, бязумоўна, значна перашкаджае адзінаму іх выступленьню супроць японскага імпэрыялізму...

Ці рыхтуецца з боку кітайскіх генэралаў і гоміндаваўскага ўраду Кітаю адпор Японіі, ці новае здрадніцтва інтарэсаў Кітаю на карысьць японскага імпэрыялізму—пакажа будучае. Аднак, фактам зьяўляецца тое, што японская армія бяз супраціўленьня рухаецца на захад, уздоўж кітайскай сьцяны, урэзваючыся клінам паміж войскамі Тай-Юй-Ліна і Чжан-Сюэ-Ляна, разьядноўваючы абедзьве гэтыя арміі і тым самым падрыхтоўваючы больш лёгкую магчымасьць для далейшых захватаў у Кітаі. Фактам астаецца таксама аб'яўленьне мобілізацыі войск у Манчжурыі і адхіленьне Японіяй пасрэдніцтва Англіі ў справе ўрэгуляваньня шанхайгуаньскага пытаньня.

## Унутрыполітычнае становішча Японіі

Бязумоўна, на зьнешнюю політыку Японіі робіць значны ўплыў політычнае становішча як у Манчжоў-Го, так і ў самой Японіі.

Рэзультаты гадовай окупацыі Манчжурыі гавораць аб тым, што японскаму імпэрыялізму не ўдалося аслабіць экономічнага крызісу ў самой Японіі. У Манчжурыі-ж крызіс неймаверна паглыбляецца.

Манчжурскі селянін разараецца. Соевы боб—асноўны рыначны продукт—упаў у цане ў параўнаньні з 1928 г. з 121 іены за пуд да 30 іен за пуд у 1931 г. Паводле прыблізных падлікаў манчжурскі селянін не выручае і палавіны сабекошту за свае землябробныя продукты. У Манчжурыі нярэдкімі зьяўляюцца выпадкі продажу жанок і дзяцей, самагубстваў.

У манчжурскай вёсцы пануе самая лютая фэодальна-прыгоньніцкая эксплёатацыя і ліхвярства. Селянін-арэндатар аддае ўладальніку зямлі ад 40 да 70 проц. свайго ўраджаю. 5 проц. насельніцтва Манчжурыі — кулакі і памешчыкі — уладаюць 65 проц. зямлі. Японскія імпэрыялісты штогодна выкалачваюць з Манчжурыі да 500 млн. іен.

Нават амэрыканскі буржуазны журнал прызнае, што перад манчжурскім селянінам стаіць пытаньне—або памерці ад голаду, або ісьці ў бандыты. Вось чаму ў Манчжурыі шырока разьвіваецца партызанская вайна супроць японскага імпэрыялізму. У баявых выступленьнях, ва ўзброенай барацьбе шукае цяпер манчжурскае сялянства выхаду з таго становішча, галоднага існаваньня, у якое яго кінулі экономічны крызіс і вайна.

Японскія войскі вядуць самую лютую барацьбу

з партызанскімі атрадамі і паасобнымі кітайскім генэраламі, якія выступаюць супроць Японіі.

Частка войск разьбітых кітайскіх генэрала (Сун-Він-Вень) перайшлі савецкую граніцу і был намі інтэрнаваны (абяззброены).

Наяўнасьць далёка несупакоенай яшчэ Манчжу рыі моцна зьвязвае японскі імпэрыялізм і патра буе вялізарных расходаў на вядзеньне вайны.

Японская грашовая адзінка—**іена**—ад пачатк ўтаржэньня ў Манчжурыю страціла больш пала віны сваёй вартасьці і падае далей.

У радох самой японскай арміі з часу пачатку паходу супроць Манчжурыі былі шматлікія вы падкі адкрытага нездавальненьня і мяцяжу.

Японскі капіталізм у сваёй аснове зьяўляецца яшчэ слабым, бо базуецца пераважна на тэкстыль най і ваеннай прамысловасьці.

Вось чаму буржуазны журналіст Будхэд—спэцыяліст па ціхаакіянскіх проблемах—піша:

«Безадказныя элемэнты Японіі гавораць пра вайну з Амэрыкай, як пра няўнікнёнае зьявішча У астроўнай імпэрыі (Японіі) няма ні фінансавых ні тэхнічных магчымасьцяй для атрыманьня перамогі над ПАЗШ. Вынік такой вайны трэба загадзя лічыць прадвырашаным».

Зразумела, буржуазны журналіст мае рацыю, сьцьвярджаючы, што Японія на шмат слабей за Амэрыку. Аднак, у Амэрыкі апроч Японіі ёсьць карэнныя супярэчнасьці і з іншымі імпэрыялістычнымі краінамі, напрыклад, Англіяй. Японія

можа толькі пачаць вялікую імпэрыялістычную вайну.

Тым больш Японія можа весьці захватніцкую вайну з Кітаем, падрыхтоўваючы яго разьдзел паміж імпэрыялістычнымі краінамі.

Шмат у чым мае рацыю і германскі друк, калі сьцьвярджае:

«Гутарка ідзе аб існаваньні Кітаю, бо Японія мае намярэньне ўсімі сродкамі дабіцца разьдзелу кітайскай дзяржавы на рад дробных, слабых провінцый».

## Вывады

Зусім ясна, што імпэрыялістычныя апэтыты Японіі натыкаюцца на супраціўленьне імпэрыялістычнай Амэрыкі, на ўнутраныя экономічныя і палітычныя супярэчнасьці ў самой Японіі, на магчымае супраціўленьне кітайскіх генэралаў і ўсё больш узрастаючы нацыянальна-вызваленчы рух у Кітаі.

Ці пойдзе Японія ў данай абстаноўцы на далейшае наступленьне ў Кітаі, на адкрытую формальную вайну з Кітаем, ці яна покуль што займецца падрыхтоўкай такога наступленьня,—будзе залежыць ад многіх акалічнасьцяй.

У ліку гэтых важнейшых акалічнасьцяй, бязумоўна, асноўнае месца займае рост рэволюцыйнага руху ў Японіі, Кітаі і іншых капіталістычных краінах.

Абстаноўка якая складваецца ў Японіі і Кітаі, ставіць перад компартыямі гэтых краін новыя задачы.

Кітайскай компартыі XII пленум ВККІ ставіць задачу:

«Забясьпечыць гегемонію пролетарыяту ў масавым антыімпэрыялістычным руху ў гоміндаиаўскім Кітаі...» і «паглыбіць савецкі рух, умацаваць Чырвоную Армію кітайскіх Саветаў».

Комуністычнай партыі Японіі ставіцца задача:

«Узмацніць сваю работу ў арміі і флёце, асабліва ў Манчжурыі, дабіцца разуменьня працоўнымі масамі Японіі сувязі паміж захватніцкай палітыкай Японіі і падрыхтоўкай інтэрвэнцыі супроць СССР і ўзмацненьнем ваенна-поліцэйскай рэакцыі і тэрору супроць працоўных мас Японіі».

«Імпэрыялістычную вайну нараджае капіталізм».

Перэтварэньне імпэрыялістычнай вайны ў вайну грамадзянскую і зьвяржэньне капіталізму зьяўляюцца адзінай надзейнай гарантыяй супроць новых імпэрыялістычных войн і інтэрвэнцый.

